Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 820.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Серада, 16 верасня 1998 г. № 98 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 кастрычніка 1997 г.

### У рускай школе вучыцца адмовіліся

**Прайшло ўжо два тыдні з пачатку новага навучальнага года, але мінскія школьнікі Аляксандр і Зміцер Іокшы не селі за парты. Раней браты вучыліся ў беларускіх класах СШ № 166 г.Мінска.**

У 1997–1998 навучальным годзе клас, у якім вучыўся Зміцер Іокша, быў пераведзены на рускую мову навучання. Бацькі былі вымушаныя перавесці сына ў СШ № 48, дзе захаваўся беларускамоўны клас. У раённым аддзеле адукацыі гарантавалі, што гэты клас не зачыніцца, але праз год клас быў пераведзены на рускую мову навучання. Тое самае здарылася і з класам старэйшага брата — Аляксандра. Побач з домам сям'і Іокшаў не знайшлося беларускай школы. Бацькі адмовіліся ад навучання сваіх дзяцей на рускай мове, і браты Іокшы не пайшлі ў школу. За гэты ўчынак дзяцей разам з бацькамі выклікалі ў РАУС Фрунзенскага раёна г.Мінска на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх. Бацькі патлумачылі камісіі, што іх дзеці па Канстытуцыі маюць права навучацца на роднай мове. У адказ бацькам было чарговы раз прапанавана змяніць школу.

Як вырашыцца лёс дзяцей, якія жадаюць атрымліваць адукацыю на роднай мове, — невядома.

**Мікола КАЧАН**

### Беразоўскі ў Мінску доўга не затрымліваецца

**Учора ў Мінску з кароткім візітам знаходзіўся выканаўчы сакратар СНД Барыс Беразоўскі.**

Ён прылятаў усё па той жа праблеме — наконт падрыхтоўкі міждзяржаўнага форуму па рэфармаванні Садружнасці. Нагадаем, што рашэнне аб правядзенні такога форуму было прынятае яшчэ ў канцы красавіка.

Беразоўскі заслухаў справаздачы кіраўнікоў маскоўскай рабочай групы, якая рыхтуе для форуму пытанні эканамічнага блоку, а таксама мінскай групы — яна займаецца праблемамі рэфармавання органаў СНД. Пра ход усяго гэтага бюракратычнага працэсу Барыс Беразоўскі павінен паінфармаваць кіраўнікоў урадаў краінаў СНД. Прэм'еры збяруцца на сваё паседжанне 25 верасня ў Ялце.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### Студэнты ствараюць прафсаюз

**Студэнты некаторых ВНУ з Мінска і абласных гарадоў падалі ў міністэрства юстыцыі дакументы на рэгістрацыю Беларускага студэнцкага прафсаюза «Салідарнасць».**

Новы прафсаюз ствараецца як альтэрнатыва афіцыйнаму. *«Ідэя нарадзілася даўно,* — паведаміў выканаўчы сакратар «Салідарнасці» Юрась Губарэвіч. — *На ўсе звароты наконт абароны правоў студэнтаў афіцыйны прафсаюз адказваў, што гэта «не іхняя справа».* Напрыклад, калі студэнтаў незаконна арыштоўвала і збівала міліцыя падчас дэманстрацыяў, а потым іх выключалі з ВНУ.

Па словах арганізатараў, галоўным накірункам працы новага прафсаюза стане праваабарончая дзейнасць, у тым ліку і абарона сацыяльных правоў студэнтаў. У прафсаюзе будзе створаная юрыдычная служба дапамогі, а таксама фонд (каса) узаемадапамогі студэнтаў.

Міністэрства юстыцыі, дарэчы, запатрабавала, каб заснавальнікамі прафсаюза значыліся не менш як 500 чалавек. Папоўненыя спісы, паведаміў Ю.Губарэвіч, будуць перададзеныя ў мінюст у бліжэйшыя дні.

**Наталля ВАЛАКІДА**

### Канфіскавалі ліст Пазьняка

**Матэрыялы чарговага сойма БНФ, нумары «Беларускіх ведамасцяў» і бюлетэня «Права на волю», а таксама ліст Зянона Пазьняка былі канфіскаваныя ў студэнта Алеся Стральцова, калі юнак перасякаў беларуска-польскую мяжу.**

Брэсцкія мытнікі палічылі, што паперы, якія вёз з сабой у Польшчу актывіст Маладога Фронту, падпадаюць пад прэзідэнцкі дэкрэт аб друкаваных матэрыялах, якія «наносяць шкоду іміджу» Беларусі. Самога «кур'ера» Стральцова, дзякуй Богу, не арыштавалі, але ягоны багаж значна аблегчылі.

Такія выпадкі на межах Беларусі адбываюцца рэгулярна. Раней у пасажыраў неадназова канфіскоўваліся народнафронтаўскія выданні, дакументы Хартыі'97, іншая палітычная літаратура. Цікава, што мытнікі, якія праводзяць падобныя канфіскацыі, заўсёды добра ведаюць, чый багаж трэба агледзець найбольш уважліва.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Прэзідэнт чакае патрыярха

***Візіт прэзідэнта Лукашэнкі на Кубу адкладваецца. Затое ў Мінск прыязджае важны госць з Масквы***



Як нам паведамілі ў міністэрстве замежных справаў, турнэ на «востраў Свабоды» планавалася на 24—26 верасня. Аднак, як сцвярджаюць дыпламаты, па прычыне «палітычнага і эканамічнага крызісу ў Расіі і рэгіёнах» падарожжа Рыгоравіча пераносіцца на больш позні тэрмін. Новая дата візіту пакуль не вызначаная.

Варта зазначыць, што сустрэча прэзідэнта Лукашэнкі з 71-гадовым кубінскім дыктатарам Фідэлем Кастра сарвалася яшчэ і па той прычыне, што 24 верасня ў Беларусь павінен прыехаць Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Рыгоравіч аддаў перавагу праваслаўнаму патрыярху, а не былому выпускніку езуіцкага каледжа Фідэлю.

Дарэчы, у пачатку года Кастра прымаў на Кубе Яна Паўла II, і Папа звярнуўся з просьбай вызваліць усіх палітычных вязняў з кубінскіх турмаў. «Святы Дух паслаў мяне, каб вязням прынесці свабоду», — сказаў Папа Рымскі на адным з набажэнстваў на Кубе.

Ці заступіцца за нашых палітвязняў патрыярх Алексій II?

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Шыдлоўскаму не даюць пісаць на волю?

**БАЦЬКІ І СЯБРЫ АКТЫВІСТА** Маладога Фронту Аляксея Шыдлоўскага, які адбывае турэмнае пакаранне за антыпрэзідэнцкія лозунгі на сценах, кажуць, што апошнім часам перасталі атрымліваць ад Аляксея лісты. *«Вось ужо амаль месяц, як ён не піша. А раней сын пасылаў нам весткі рэгулярна, не менш як раз на тыдзень»,* — гаворыць маці Аляксея Ларыса Іванаўна. Яна ўзгадвае, што ў апошнім лісце, які прыйшоў напачатку жніўня, Аляксей паведамляў пра тое, што турэмнае кіраўніцтва ўгаворвае яго не пісаць артыкулы ў газеты і намякае на непрыемнасці.

*«Мы падазраем, што гэтыя непрыемнасці якраз пачаліся, бо Аляксей упарты і ад сваіх перакананняў не адмовіцца»,* — кажуць бацькі Шыдлоўскага. Яны не выключаюць, што адміністрацыя мінскай калоніі УЖ-15/1 вырашыла «адключыць» Аляксея ад знешняга свету звычайным шляхам: ягоныя лісты і карэспандэнцыя, якая яму адрасуецца, чамусьці сталі «губляцца». *«Аляксей папярэджваў, што такое можа адбыцца. Гэта звычайная ў турме практыка ўздзеяння на тых, хто не здаецца»,* — кажуць Шыдлоўскія.

Дарэчы, іх падазрэнні падзяляе і Вадзім Лабковіч, які праседзеў разам з Шыдлоўскім амаль паўгода ў следчым ізалятары і таксама быў асуджаны, але ўмоўна. Лабковіч, які цяпер вучыцца ў інстытуце, сцвярджае дакладна тое ж, што і бацькі Шыдлоўскага. Ягоная перапіска з Аляксеем яшчэ напачатку лета была вельмі актыўнай, але ў жніўні раптам перарвалася. *«Ведаючы Аляксея, я не магу ўявіць сабе, што ён па сваёй волі перастаў пісаць мне з турмы, дзе за кожную ніточку чалавечых зносінаў людзі трымаюцца абедзвюма рукамі. Тут нешта не тое»,* — кажа Вадзім Лабковіч.

Нагадаем, што за кратамі 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі знаходзіцца са жніўня мінулага года. У турме яму сядзець яшчэ да лютага будучага года, бо на ўмоўна-датэрміновае вызваленне яму, мяркуючы па ўсім, ужо спадзявацца не даводзіцца. Яшчэ ў ліпені выхавацель атрада, у якім знаходзіцца Аляксей, спадар Жэнеўскі заяўляў карэспандэнту НАВІНАЎ, што з *«Шыдлоўскім праблемаў няма і калі ўсё будзе добра і надалей, ён мае шанец вызваліцца датэрмінова»*. Відаць, праблема з'явілася.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## У Мінску загучыць сірэна

**Сёння ў Мінску пачынаюцца вучэнні па грамадзянскай абароне. У самым населеным Фрунзенскім раёне будуць праводзіцца заняткі па абароне жыхароў на выпадак аварыі.**

Самымі небяспечнымі ў гэтым плане спецыялісты лічаць водаачысную станцыю «Мінскводаканала» каля ТЭЦ-4, дзе ўтрымліваюцца вялікія запасы хлору, а таксама газанапаўняльную станцыю. У «абароне» паўдзельнічаюць нават байцы спецпадраздзялення «Алмаз», якіх трэніруюць для барацьбы з самымі небяспечнымі злачынцамі і тэрарыстамі.

Дарэчы, упершыню пройдуць вучэнні эпідэміялагічнага атрада. Як паведамілі ў штабе ГА, гэта звязанае з тым, што ў Мінску апошнім часам назіраліся ўспышкі эпідэміяў, так што гэтаму падраздзяленню трэба патрэніравацца.

У час вучэнняў будзе ўключацца сірэна, і штаб ГА просіць грамадзянаў не панікаваць. На прыкладзе аднаго з дамоў правядуць эвакуацыю людзей у бяспечныя месцы, людзей абяцалі папярэдзіць загадзя.

Пасля Мінска вучэнні грамадзянскай абароны запланаваныя таксама ў Капыльскім і Нясвіжскім раёнах.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

### Мітынгі

***Сёння ў 17.30 на плошчы Якуба Коласа ў Мінску Таварыства беларускай мовы праводзіць мітынг у падтрымку беларускай адукацыі і беларускай мовы.***

### Стыхія

***Над Гомельскай вобласцю апошнія два дні дзьмулі штармавыя вятры, якія дасягалі хуткасці 30 м/с. У Гомелі паваленыя дзесяткі дрэваў, выбітыя шыбы ў школах і жылых дамах. Сіноптыкі патлумачылі: над тэрыторыяй Гомельскай вобласці праходзіць мяжа атмасфернага фронту паміж цёплым антыцыклонам і халодным цыклонам.***

### Транспарт

***У хуткім часе ў Беларусі будуць рабіць трамваі. Мінскае прадпрыемства «Белкамунмаш» распрацавала ўласную праграму па вытворчасці трамваяў. Выпуск айчыннага трамвая дазволіць адмовіцца ад імпарту дарагіх расійскіх і чэшскіх машын.***

### Чытанні

***Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя Народная Грамада і Беларуская сацыял-дэмакратычная моладзь «Маладая Грамада» па чацвяргах, 17 і 24 верасня, а таксама 1, 8 і 15 кастрычніка праводзяць паэтычныя чытанні ля помніка Янку Купалу. Удзельнічаюць вядомыя паэты, літаратурная моладзь, беларускія барды. Пачатак а 18-й гадзіне.***

### Сцены гавораць

**Антыўрадавыя і антырасійскія графіці пакінулі невядомыя на сценах Магілёўскай школы міліцыі.**

Зранку мінулай суботы можна было прачытаць шматлікія надпісы кшталту «Наш дом Беларусь! Акупанты прэч!», «Лукашызм не пройдзе!», «Жыве Беларусь!». Міліцыя ўзбудзіла адміністрацыйную справу і шукае невядомых графіцістаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Яшчэ 3 дні на падпіску

**Шаноўныя чытачы!**

**Падпіска працягнутая да 18 верасня. Газету НАВІНЫ можна выпісаць у любым аддзяленні пошты і Белсаюздруку. Кошт падпіскі на месяц - 40.000 руб.**

## Не спазніся!

*Назіранні*

## Дажынкі пад розным соусам

**Гледачы БТ, пазнаёміўшыся з тэлепраграмай гэтага тыдня, былі ўражаныя. Хто непрыемна, а хто, можа, і парадаваўся. На выхадныя дні ім прапануюць адны дажынкі, і зранку, і ўвечары. Пад розным соусам, калі можна сказаць.**

Ужо ў чацвер у праграме стаяць два разы гэтыя самыя «дажынкі», у пятніцу — тройчы. А пра суботу і нядзелю і ўвогуле няма чаго казаць: адпаведна восем і чатыры разы ў дзень па БТ будуць круціць дажынкі, прычым запар па некалькі перадачаў. Тут табе і выступ Лукашэнкі на паўтары гадзіны, і «ток-шоу» «Мая работа», і «Героі жніва-98», ды пад усякімі іншымі назвамі — «Зроблена ў Беларусі», «Беларускі дом» і гэтак далей. Толькі ў суботу на тэлебачанні будзе больш за сем дажынкавых гадзінаў. А ўсяго «ўдзячныя гледачы» змогуць убачыць каля 13 гадзінаў гэтых «самых дажынак». Можна ў кнігу Гінеса падаваць заяўку, хай прыедуць і самі пераканаюцца, што гэта — рэкорд.

Між іншым, у апошнюю суботу БТ парадавала яшчэ раз і леташнімі «Дажынкамі-97», каб не забываліся гледачы, як файна танчылі на іх кубанскія казакі з шаблямі і ў галіфэ.

Трэба сказаць, што нічога новага наша тэлебачанне не адкрыла. У некаторых славянскіх краінах дажынкі — рэч вельмі распаўсюджаная. Напрыклад, у Польшчы адзначалі ў розных месцах. Прычым, у адным пабываў прэзідэнт, у другім — прэм'ер, у трэцім святкавала сялянская партыя — *PSL*, а яшчэ асобна — апазіцыя на чале з былым прэм'ерам Юзафам Алексы. Але ўсім гэтым падзеям Польскае тэлебачанне прысвяціла па 10—15 секундаў у выпусках навінаў. Карацей кажучы, дажынкі — справа някепская, калі не даводзіць іх да абсурду.

А ўвогуле, усе намаганні БТ могуць пайсці марна. Мінскі гарэлачны завод «Крышталь» пастараўся і вельмі аператыўна выпусціў новую «актуальную» гарэлку — «Дажынкі-1998». Для многіх гледачоў такая пляшка стане больш прыемнай альтэрнатывай тэлеэкрану.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Дзед закапаў – унук выкапаў

**Жыхар пасёлка Стрэшын Жлобінскага раёна пачаў капаць яму каля сваёй хаты, і выкапаў... чатыры гранаты.**

Напалоханы дзядзька кінуў капаць і паведаміў пра зброю ў міліцыю. Сапёры знайшлі пад ганкам яшчэ 16 гранат, артылерыйскі снарад і дзве скрыні патронаў.

Аналагічная гісторыя адбылася і з жыхаром вёскі Пірэвічы. Корпаючыся на ўласным агародзе, ён сабраў «ураджай» з 20 мінамётных мін.

Відавочна, зброю часоў Другой сусветнай вайны пад ганак і ў грады паклалі запаслівыя дзяды цяперашніх гаспадароў падворкаў. А вось расказаць пра хованкі нашчадкам, відаць, забыліся.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Інвалід параніў міліцыянта

**Цяжкае нажавое раненне атрымаў старшына міліцыі з горада Навалукомля Віцебскай вобласці.**

Ён бараніў свой сад, куды палез красці слівы 33-гадовы інвалід. Паміж ім і міліцыянтам пачалася бойка, пасля якой гаспадара сада адвезлі ў бальніцу.

## Угналі асфальтавы каток

**У Светлагорску Гомельскай вобласці невядомыя ўгналі каток для ўкладкі асфальту.**

Дарожныя рабочыя пакінулі яго на ноч. Ён быў пакінуты без нагляду на аўтамабільнай трасе Светлагорск—Еланы. Калі зранку прыехаў самазвал з асфальтам — раскатаць яго ўжо не было чым.

*ІМА-прэс*

## Вандалаў шукаць не будуць

**Брэсцкая міліцыя адмовілася ўзбуджаць крымінальную справу па факце вандалізму на помніку ахвярам габрэйскага гета.**

Нашая газета паведамляла пра гэты выпадак: невядомыя вандалы намалявалі на абеліску фашысцкую свастыку. Старшыня брэсцкага таварыства «Халакост» Аркадзь Бляхер звярнуўся тады з заявай у міліцыю. Супрацоўнікі Ленінскага РАУС Брэста правялі праверку і днямі даслалі сп.Бляхеру адказ. Міліцыя адмовілася ўзбуджаць крымінальную справу, паколькі *«выявіць асобу, якая намалявала свастыку на помніку, не ўяўляецца магчымым»*. Брэсцкія ахоўнікі парадку таксама лічаць, што факт апаганьвання помніка *«не меў вялікай грамадскай небяспекі»*.

**Язэп СІНІЦКІ**

# Ці можа быць у нас «Салідарнасць»?

**Віктар ІВАШКЕВІЧ**



*Дайце мне пункт апоры — і я пераварну свет*

Пасля восені 1996 года галоўным лозунгам «шырокай» апазіцыі стала фраза: «Галоўнае — выжыць!» Разгубіўшыся, спасаваўшы перад нахабнай сілай рэжыму, дэмакраты збіліся ў замкнутыя секты і пачалі строіць планы — як камфортна і сытна перачакаць дыктатуру, а пасля таго, як яна *«сама абрынецца пад цяжарам сваіх грахоў» і «лукашэнкаўскі электарат вымрэ натуральнай смерцю»*, ускочыць ва ўладу на белым кані.

Падобныя планы строяць вельмі многія — хто з эміграцыі, хто з офісаў вельмі дэмакратычных недзяржаўных арганізацыяў. Мауляў, дэмакратыя на Беларусі непазбежная як смерць — калі-небудзь ды будзе. А пакуль гэты «непазбежны» цуд не наступіў, трэба нечым заняцца, — але ж такім, каб было і псіхалагічна камфортна, і дэмакратычна, і нацыянальна свядома, і матэрыяльна забяспечана, і не вельмі рызыкоўна («галоўнае - выжыць!»). І вось адны рыхтуюцца да нейкіх выбараў, бо *«других путей свержения режима, кроме демократических выборов, я не вижу»*. Другія ствараюць віртуальную рэспубліку, якая павінна выконваць функцыю *«бел-чырвона-белай стужкі на сэрцы»* і *«ўтульнага псіхалагічнага прыстанку для кожнай стомленай нацыянальнай душы»*. Трэція праводзяць вельмі важныя, шырока вядомыя ў вузкім коле канферэнцыі і семінары на тэму «Роля трэцяга сектара ў пабудове грамадзянскай супольнасці».

Усе маюць занятак — і сумарны рэйтынг усіх партыяў, разам узятых, складае 5 %. А людзей, якія не ведаюць каму можна давяраць, — ажно 60 %.

### Пункт апоры

Усе дэмакратычныя партыі і грамадскія ініцыятывы заяўляюць, што іхняй апорай з'яўляюцца гараджане малодшага і сярэдняга веку. А хто ж тыя людзі? У большасці гэта — рабочыя прамысловых прадпрыемстваў і прыватныя прадпрымальнікі ці, як іх яшчэ называюць, «чаўнакі», — таксама пераважна нядаўнія работнікі гэтых прадпрыемстваў. І таму ўся рэальная палітыка на Беларусі круціцца вакол вялікіх заводаў, на кожным з якіх працуюць тысячы і дзесяткі тысяч людзей. Дэмакратычныя партыі, арганізацыі і ініцыятывы атрымаюць падтрымку гэтай сацыяльнай групы толькі ў тым выпадку, калі пераканаюць рабочых, што змогуць вырашыць іхнія праблемы. Чаму маса рабочых пайшла за Лукашэнкам у 1994 годзе? Бо ён адзіны сказаў, што *«запустит заводы»*, — і яго пачулі!

Нашыя дэмакраты, дэкларатыўна працуючы з усім народам, фактычна ў сваёй дзейнасці арыентуюцца на гуманітарную інтэлігенцыю. Такім чынам, са сферы іх уплыву выпадае асноўная сацыяльная група краіны — рабочыя. Таму ў дэмакратычных «сілаў» няма сапраўднай сілы — масавай падтрымкі. І ніякія грунтоўныя палітычныя і эканамічныя змены ў нас не адбудуцца... да таго часу, пакуль дэмакраты не дамогуцца ўплыву сярод рабочых.

Што ж цікавіць гэтых людзей? Якія іхнія жыццёвыя прыярытэты? Паводле сацыялагічнага даследавання, праведзенага бюлетэнем «Рабочый», — 80% апытаных лічаць галоўным у сваім жыцці ***здароўе, сям'ю, дабрабыт (заробак)***. І толькі 30% назвалі ***свабоду***. 70% рабочых ужо ***не вераць прэзідэнту***, але столькі ж ***не вераць нікому***. І калі дэмакраты сапраўды імкнуцца прыцягнуць гэтых людзей да змагання (ці хаця б да падтрымкі ідэяў грамадзянскіх свабодаў і незалежнасці Беларусі), неабходна адказаць ім на пытанні: *«Што ты мне дасі?», «Хто замест Лукашэнкі?», «Чым вы лепшыя?»* і *«Чым дакажаце, што не хлусіце, як усе папярэднія?»*

Можна называць гэтыя пытанні *несвядомымі, каўбаснымі* і *шкурнымі*, але пакуль мы не пойдзем да рабочых і не адкажам на ўсе пытанні дасканала і зразумела, то так і застанемся для іх тымі, хто «проста рвецца да ўлады» і «з жыру бесіцца». А таму галоўная задача нашай апазіцыі сёння — сканцэнтраваць сваю дзейнасць на падтрымцы рабочага руху.

Могуць запытацца: «А ці ёсць на Беларусі гэтыя рабочы рух? Наш жа народ такі, што ў яго забяруць апошняе, а ён замест таго каб змагацца, ляжа пад лаўку і будзе паміраць. Ці па загадзе начальства сам павесіцца на ўласнай вяроўцы».

Усё гэта так, ды не так. За апошні год у Беларусі адбылося больш за 20 лакальных страйкаў, у асноўным з прычыны затрымкі заробкаў і з патрабаваннем іх падвышэння. І калі расійскія рабочыя чакаюць грошай па некалькі гадоў, — нашыя пачынаюць страйк, калі заробку няма два месяцы, а ў Мінску — нават і праз 5 дзён затрымкі. Натуральна, у большасці гэта — стыхійныя бунты (або «каўбасныя», як іх называюць свядомыя дэмакраты). Але і нядаўняе мінулае (статысячны мітынг і перакрытая чыгунка ў красавіку 1991 года), і сённяшнія дні (сёлетні агульнанацыянальны страйк дробных прадпрымальнікаў у 12 гарадах) паказваюць, што прафсаюзны рух можа стаць магутнай грамадскай і нават палітычнай сілай. Асабліва ў сітуацыі эканамічнага абвалу.

### Рычаг

На сённяшні дзень у дэмакратычных сілаў ужо ёсць пачатковая структура, праз якую можна выходзіць на рабочых, — гэта свабодныя прафсаюзы.

Колькасць людзей, што праз свае мясцовыя арганізацыі аб'ядналіся ў Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, на сённяшні дзень складае 18 тыс. чалавек. Ёсць група юрыстаў, якія абслугоўваюць сябраў прафсаюзаў. Ёсць тэхніка, памяшканні, транспарт. Ёсць падтрымка салідарнасці ад міжнародных прафцэнтраў. Чаго бракуе, дык гэта людзей, здольных да арганізатарскай дзейнасці. Але не толькі. У сувязі з тым, што большасць лідэраў прафсаюзаў — энергічныя людзі «ад станка», у іх не хапае ведаў — што рабіць — як рабіць? І таму важна мець інтэлектуалаў і навукоўцаў, хаця б у якасці кансультантаў.

Грамадскія актывісты могуць дапамагчы прафсаюзам наступным чынам:

1. Стварыць пярвічную арганізацыю па месцы сваёй працы і непасрэдна ўзяць удзел у пашырэнні свабодных прафсаюзаў. Такім людзям кангрэс мае магчымасць аказаць поўнамаштабную метадычную, юрыдычную, арганізацыйную і нават тэхнічную дапамогу.

2. Інфармацыйна падтрымліваць мясцовыя прафсаюзы праз рэгіянальныя газеты.

3. Разам з прафсаюзамі арганізоўваць пікеты пад сацыяльнымі лозунгамі.

4. Запрашаць рабочых-актывістаў на тыя адукацыйныя семінары, што праводзяць нашыя шматлікія недзяржаўныя арганізацыі. Пісьменнікі і журналісты могуць арганізаваць «сустрэчы з чытачамі» на заводах, музычныя калектывы праводзіць вечарыны і канцэрты, гуманітарныя фонды размяркоўваць гуманітарную дапамогу праз пярвічкі свабодных прафсаюзаў.

Карацей, калі кожная партыя і грамадская арганізацыя, нават не змяняючы свайго профілю, абярэ аб'ектам сваёй дзейнасці рабочых — гэтыя сумарныя намаганні павінны будуць даць эфект. І калі колькасць сяброў свабодных прафсаюзаў перавысіць пэўную велічыню, то рабочы рух пяройдзе ў новую якасць. Тады магутны прафсаюзны рух здолее выступіць рэальным гарантам захавання дэмакратычных свабодаў і незалежнасці Беларусі.

А аб'ектыўныя падставы для гэтага ёсць. Рэйтынг ***даверу*** да свабодных прафсаюзаў на Беларусі складае 25%. ***Не даяраюць*** ім 20% апытаных. 55% ***не ведаюць*** пра існаванне такіх структураў. Прыблізна 25% выказваюць імкненне да ўдзелу ў страйках і мітынгах. Такім чынам, ужо сёння ***1 млн. чалавек давяраюць свабодным прафсаюзам і гатовыя страйкаваць***.

Вядома ж, ад дэкларацыі намераў да рэальнага дзеяння вельмі далёка. І толькі агульнымі намаганнямі ўсіх дэмакратычных сілаў ёсць надзея зрушыць гэтую масу незадаволеных да ўсвядомленага змагання за свае правы.

### Як перавярнуць свет

Сёння рабочыя знаходзяцца ў стане разгубленасці. Расійскі эканамічны хаос разбурае старыя стэрэатыпы. Інтэграцыя абярнулася дэфіцытам тавараў і ростам цэнаў. Рынкавы сацыялізм — спыненнем заводаў і адключэннем электрычнасці. Барацьба з карупцыяй — прэзідэнцкімі самалётамі-верталётамі і імперыяй Ціцянкова.

Людзі не разумеюць: што робіцца, на каго спадзявацца і што ім самім рабіць. Пераважная большасць рабочых сёння з вялікай зацікаўленасцю слухаюць кожнага, хто хаця б нешта спрабуе ім растлумачыць.

Крызіс відавочна прымае зацяжны характар, і можна прагназаваць, што з кожным месяцам становішча будзе пагаршацца. Упершыню за апошнія 10 гадоў прафсаюзы — афіцыйныя і свабодныя — салідарна абвесцілі на 4—5 лістапада агульнанацыянальную акцыю пратэсту. Вядома, гэта будзе яшчэ не апошні, але відавочна рашучы бой за тое, каб прымусіць дыктатуру адступіць. Бо сярод чыста эканамічных патрабаванняў прафсаюзы патрабуюць доступу да электронных СМІ. А гэта ўжо вельмі важна.

Цяпер відавочна, што ўсе ранейшыя формы барацьбы з рэжымам не даюць істотных вынікаў. Ні заявы міжнародных арганізацыяў і замежных палітыкаў, ні юрыдычныя абгрунтаванні легітымнасці ці нелегітымнасці... Нават максімальна масавы мітынг у 100 тысяч чалавек не дасць рашучага эфекту – ну, пакрычалі тры гадзіны і разышліся. Толькі ўсеагульная забастоўка ці яе рэальная пагроза можа прымусіць улады саступіць. У тым ліку і пайсці на дэмакратычныя выбары. Без Лукашэнкі.



*70 працэнтаў рабочых не вераць ужо нікому.*

*Віктар Івашкевіч — сябра Рады Свабоднага прафсаюза беларускага, удзельнік аргкамітэта Хартыі'97*

*Увага: конкурс!*

# Я маю права

***Дарагія юныя грамадзяне Беларусі!***

Сёлета сусветная супольнасць адзначае значную дату сваёй гісторыі — 50 гадоў з дня прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека».

З гэтай нагоды Беларускі Хельсінкскі камітэт абвяшчае літаратурны конкурс «Я маю права», да ўдзелу ў якім запрашаюцца вучні 8—11 класаў.

Конкурсныя працы павінны адлюстроўваць Ваша разуменне ролі «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека» як для чалавечай цывілізацыі наогул, так і для нашай незалежнай дзяржавы, для Вас асабіста. Вы будзеце жыць у новай Беларусі. Якой Вы бачыце сваю радзіму ў XXI стагоддзі? Што Вы самі паспелі ці мяркуеце зрабіць для ператварэння Беларусі ў дэмакратычную еўрапейскую краіну з развітай нацыянальнай культурай і высокім узроўнем жыцця, дзе будуць забяспечаныя ўсе правы чалавека? (Калі Вы не знаёмыя з тэкстам «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека», звяртайцеся ў бібліятэкі або непасрэдна ў Беларускі Хельсінкскі камітэт.)

Для сваёй конкурснай працы Вы можаце абраць розныя жанры: мастацкае апавяданне, дакументальны нарыс ці замалёўка, публіцыстычны рэпартаж пра канкрэтную падзею ці нават паэтычны твор. Адзіная ўмова: Ваша праца павінна быць напісаная па-беларуску — на мове, ад будучыні якой залежыць і будучыня нашай дзяржавы.

Конкурсныя працы дасылаюцца ў двух экземплярах надрукаванымі на машынцы, набранымі на камп'ютэры або ў рукапісу.

Тэрмін дасылання — да 1 лістапада 1998 г. (па паштовым штэмпелі). Апрача дакладнага адраса, просім паведамляць і нумар Вашага тэлефона.

Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы, вызначыць адно першае, два другія і тры трэція месцы.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. Лепшыя творы будуць апублікаваныя.

Конкурсныя працы дасылаць на адрас:

*Беларускі Хельсінкскі камітэт, вул.К.Лібкнехта, 68, пакой 1201, Мінск 220036 — з паметкай:*

***на конкурс***

***Тэл.для даведак (017) 222-48-00.***



ЧТО ПИШУТ

# Беларусь в кругу соседей

После введения Евросоюзом санкций против Беларуси из всех европейский стран только Польша и Литва не присоединились к ним. Формальным объяснением этих стран не участвовать в бойкоте было желание сохранить нормальные соседские отношения с РБ. Однако, по мнению газеты «Московские новости», это объясняется отсутствием договора о реадмиссии — возврате нелегальных мигрантов (любой человек, какое бы гражданство он не имел, проникнув на территорию Польши и Литвы с территории Беларуси, не может быть возвращен к месту отбытия). Однако, это соглашение является обязательным условием при вступлении любого государства во многие европей_ские структуры.

После распада СССР довольно близкие отношения сложились у Беларуси с Польшей. Так, с 1991 по 1994 гг. большая часть совместных предприятий, открытых на территории Беларуси, были учреждены белорусскими и польскими фирмами.

Как считает газета «Московские новости», руководство Польши уделяло проживаемым в РП этническим белорусам «большое внимание». Газета пишет, что в местах компактного проживания белорусского населения были открыты школы с преподаванием на белорусском языке, которые финансировались как правительством Польши, так и местными властями. Выходили газеты и работала радиостанция на белорусском языке.

В Беларуси вторым по численности национальным меньшинством, после русских, являются поляки. Однако в республике работает всего одна школа на польском языке в Гродно, да и та построена на средства польских общественных организаций. В строительстве второй школы полякам было отказано.

Президент Беларуси неоднократно обвинял руководство Польши во враждебных действиях по отношению к его стране. В частности, выдвигались претензии по активизации на территории Беларуси польских спецслужб, но конкретных примеров не приводилось.

Правительство Беларуси видит в предоставлении территории Польши для создания любых проектов белорусской оппозиции недружественный акт. Например, белорусский МИД прислал в Варшаву ноту протеста в связи с намечаемым открытием в Белостоке радиостанции «Свободная Беларусь», несмотря на многочисленные уверения министра иностранных дел Польши, что это частный проект и власти не имеют к этому никакого отношения.

*По материалам газеты «Московские новости»*

# «Летающий автомат Калашникова»

**На авиасалоне в английском Фарнборо новейшую модель российского истребителя МиГ-29 уважительно окрестили «летающим автоматом Калашникова».**

Показательные полеты, по общей оценке наблюдателей, выявили, что российские самолеты гораздо маневреннее новейшего европейского самолета «Тайфун». МиГ поразил специалистов и прочими тактико-техническими данными. Дальность полета возросла до 3,5 тысяч километров. Это означает, что, взлетев с территории России, этот истребитель покрывает всю Европу, кроме Испании с Португалией, и возвращается назад. Разумеется, если не собьют.

А вот чтобы не сбили, машина способна достойно «огрызнуться». На МиГе установлен сверхчувствительный инфракрасный локатор, фиксирующий передвижение на земле любых объектов со скоростью более 20 км/час. Удивило специалистов и ракетное вооружение со стопроцентной гарантией попадания в цель на удалении до 50 километров.

Мощный, с высокоточным оружием, неприхотливый самолет за все это и окрестили «летающим автоматом Калашникова».

МиГ-29 СТМ начнет поступать на вооружение ВВС РФ в ближайшее время. Заказ на 1999 год составляет 20 машин. Об этом сообщил заместитель главкома ВВС РФ Юрий Клишин на пресс-конференции, состоявшейся в рамках авиасалона.

**Виктор ПОДЛУБНЫЙ**

# Проверка архивов КГБ

**108 дел по проверке фактов сотрудничества с КГБ было возбуждено прокуратурой Латвии за последние четыре года.**

В судах первой инстанции было рассмотрено 66 дел, по четырем из них вынесен «неутешительный» приговор. Генеральная прокуратура выявила 28 тайных агентов КГБ, причем 21 признался в содеянном, не дожидаясь суда.

**Б.П.**

*Казахстан*

# Диктатура с человеческим лицом

...Симпатичная девушка в подвенечном наряде и молодой человек во фраке, взявшись за руки, идут по пустынной ночной площади. Яркие вспышки салюта, торжественно-сентиментальная музыка. Это было первое, что я увидел, включив телевизор в номере алма-атинской гостиницы. Весь вечер государственный телеканал «Хабар» настойчиво демонстрировал мне сей романтический сюжет. Похоже, состоявшаяся почти два месяца назад свадьба младшей дочери президента Назарбаева Алии и Айдара Акаева, сына президента Киргизии, до сих пор самое актуальное событие в республике. Кстати сказать, руководит главным телеканалом страны старшая дочь Назарбаева — Дарига.

## Олигархи по крови

Казахстан похож на Россию, да и почти половина населения — русские. Здесь такой же строй — бюрократический капитализм, только бюрократии побольше, а капитализма поменьше. Соответственно, и жизнь похуже. Как и в России, здесь противостоят друг другу несколько промышленно-финансовых группировок, или, точнее сказать, семейных кланов, однако их влияние на большую политику невелико. Казахстанские олигархи гораздо слабее воздействуют на политику правительства, при этом используются отнюдь не финансовая мощь или пресса, а родственные и клановые связи. Сахарный и водочный магнат Рахат Алиев (по совместительству глава налоговой полиции) доводится президенту зятем. Другой зять, Тимур Кулибаев — вице-президент национальной нефтяной компании «Казахойл». Прочие олигархи добились своего положения во многом благодаря дружбе с младшим поколением президентской семьи, а также абсолютной лояльности президенту.

В отличие от российских магнатов, позволяющих себе иногда становиться в оппозицию к власти, финансово-промышленная элита Казахстана находится в полной зависимости от правящей фамилии. Роль независимого олигарха сейчас пытается играть бывший премьер-министр Акежан Кажегельдин. Считается, что он — наиболее грозный конкурент Назарбаева на президентских выборах 2000 года. Незадолго до отставки с поста премьера Кажегельдин был вытеснен из большинства перспективных сфер казахской экономики, и сейчас его финансовое могущество зиждится на своевременно выведенном за границу капитале.

## Незаменимый руководитель

В Казахстане считают, что у них в отличие от соседних Узбекистана и Туркменистана нет культа личности президента. Взять хотя бы памятники, например в Алма-Ате. Город этот, хоть и лишившийся полгода назад статуса столицы, по-прежнему остается крупнейшим политическим и экономическим центром страны. Между тем удалось сыскать всего одно изображение Назарбаева. Десять барельефов повествуют о важнейших событиях казахстанской истории, и на одном из них запечатлен Нурсултан Абишевич — провозглашает суверенитет республики.

Действительно, здесь не услышишь безудержного восхваления и цитирования «вождя и учителя». Однако это не должно вводить в заблуждение относительно роли президента и его семьи в политической и экономической жизни страны. За семь лет независимости дважды распускался парламент — и оба раза по инициативе Назарбаева; несколько раз сменилось правительство, и опять же с подачи казахстанского президента. Но, несмотря на катастрофическое снижение уровня жизни населения, разговоров о новых выборах президента не возникало. Два года назад его полномочия были продлены до конца 2000 года — на референдуме, который, по утверждению наблюдателей, прошел с многочисленными нарушениями.



*Нурсултан Назарбаев зорко следит за возможными конкурентами.*

Оппозиция опасается, что «фарс» со свободным волеизъявлением народа повторится, когда истечет президентский мандат. В начале сентября представители двадцати карликовых оппозиционных партий и движений создали общественное объединение «За честные выборы». Первой пробой сил станут выборы в маслихаты (областные советы), которые должны пройти не позднее марта следующего года. Осенью 1999 года состоятся выборы в нижнюю палату парламента (мажилис), в котором, по словам лидера движения «Азамат» («Гражданин») Петра Своика, сейчас оппозиция никак не представлена, как, впрочем, и в верхней палате.

## Бархатная диктатура

Предприниматели уверяют, что вот уже два года, как они не платят дань бандитам. Хозяйничавшие в Алма-Ате две криминальные группировки исчезли. Рэкетом занимаются чиновники, и аппетиты у них больше, чем у бандитов. Жаловаться некому — поборами живет вся управленческая вертикаль снизу доверху.

Власть построена так, что не допускает выражения недовольства и инакомыслия. Треть сенаторов непосредственно назначает президент, оставшиеся две трети — выборные, но голосование проводится не среди простых избирателей, а среди депутатов маслихатов. Выборы в нижнюю палату парламента проводятся исключительно по мажоритарной системе. В таких условиях не могут сформироваться по-настоящему сильные партии, и ключевыми политическими фигурами становятся акимы — главы регионов, которых также назначает лично президент. Они всегда могут найти подход к депутатам маслихатов и повлиять на ход голосования в своих регионах.

Препятствуют формированию оппозиции и высокие денежные взносы, которые должен внести кандидат на выборную должность. Если же на оппозиционном небосклоне появляется яркая личность, власти просто вербуют ее в свои структуры. Случается, что оказывается и физическое давление.

Зорко следит Нурсултан Назарбаев за возможными конкурентами в рядах власти. Таких либо отправляют в отставку и вынуждают покинуть страну, как экс-премьера Акежана Кажегельдина, либо направляют подальше за границу на дипломатическую работу, как известного поэта Олжаса Сулейменова.

Иными словами, оппозиции не дается ни одного шанса. По словам Петра Своика, ни одна политическая партия в Казахстане сейчас не может привлечь в свои ряды более тысячи человек, а следовательно, все они не представляют никакой угрозы политическому режиму. В то же время власти не стремятся полностью задавить оппозицию, понимая, что в таком случае исчезнет создаваемый для западных кредиторов демократический антураж. Казахстан не сотрясают громкие политические убийства, здесь не пропадают бесследно люди, не томятся в застенках оппозиционеры. Назарбаеву удалось создать очень удобный, надежный и внешне пристойный политический механизм. Только вот одного не удается — обеспечить сносный уровень жизни населения. Даже по официальным данным, за чертой бедности живут 60% жителей страны. Власть ставит себе в заслугу, что за последние два года несколько уменьшилось число бедняков, умалчивая о том, что на многих предприятиях люди по году-полтора не получают зарплату, а в сельской местности народ перешел на натуральное хозяйство. Неприятно, конечно. Но так жили веками, и ханов своих любили.

**Сергей СКЛЯРОВ**


*Озерные чайки — весьма верные «супруги». Однако в крупных городах — как, например, в Минске — они живут большими стаями и часто находят себе более интересного партнера.*

# И птицы – как люди

### Развод в животном мире

Долгие годы ученые считали, что у многих видов птиц свившая гнездо пара остается парой навсегда. Но в ходе более детальных исследований оказалось, что даже самец, который помогает мамаше выкармливать птенцов, не всегда является их отцом.

Исследования устойчивости брака у птиц начались в 80-е годы. Многие исследователи теперь используют по отношению к птицам термин «развод», хотя сначала его появление в научной литературе вызвало взрыв возмущения: он казался «слишком человеческим», но все же прижился.

Немногие виды животных образуют при размножении более или менее постоянные пары. Например, среди млекопитающих таких всего пять процентов. Гиббоны, шакалы, мартышки и некоторые виды мышей создают брачные союзы на всю жизнь. Известно такое явление даже у беспозвоночных: например, брак на всю жизнь (а длится она в среднем 49 дней) заключают пустынные пауки.

### Семейные гнезда

Более 9.000 видов птиц заключают браки на то или иное время, говорит английский орнитолог Джеффри Блэк, изучающий эту проблему. Но не все они хранят верность. У городских ласточек и американских красных фламинго почти сто процентов пар текущего года на следующий год распадаются. А вот среди австралийских ворон и альбатросов разводов почти не бывает.

Несколько потускнел такой романтический символ верности, как лебеди. Оказывается, разводом кончается супружеская жизнь примерно 10% лебединых пар.

Как и у человека, частота разводов у птиц одного вида различна в разных районах. Например, у больших синиц она может колебаться от нуля до 51%. Зимой в больших лесных массивах синицы собираются стаями, в которых больше возможностей познакомиться с кем-то другим. В небольших лесах и в городах синицы реже образуют кочующие зимние стаи, так как здесь им легче найти пищу, и потому они сохраняют верность своей паре.

И вот что любопытно: в птичьих парах обычно «из семьи» уходит самка, причем после развода она, как правило, находит более выгодный вариант — самца более сильного и более плодовитого.

**Елена СУРКО**


*Пеликаны относятся к птицам, заключающим крепкие семейные союзы. Даже если папа-пеликан и приударит на стороне, он все равно будет исправно носить рыбу своим детям.*

## Драгоценности среди обломков самолета

**Как сообщили представители компании *Swissair*, чей самолет разбился 3 сентября у берегов Канады, на борту авиалайнера находились ценности на сумму более полутора миллионов долларов, в том числе — картина Пабло Пикассо, крупные денежные суммы и драгоценности.**

3 сентября самолет компании *Swissair* с 229 пассажирами на борту упал в Атлантический океан в районе канадской провинции Новая Шотландия. Все пассажиры и экипаж погибли. Поиски останков людей и самолета продолжаются до сих пор.

Пресс-секретарь *Swissair* сообщил, что вместе с самолетом погибла картина Пабло Пикассо «Художник» — по оценкам экспертов, она стоила не менее полутора миллионов долларов. На борту самолета также находился специальный контейнер с пятьюдесятью килограммами денег, а также более пяти килограммов драгоценных камней и алмазов. Однако нет никаких упоминаний о том, какая именно валюта перевозилась в контейнере и сколько могут стоить обнаруженные драгоценности.

**М.К.**

## Новое переселение народов?

*Западной Европе грозит мощная волна иммиграции из Восточной и Южной Европы*

К такому выводу пришли спецслужбы ряда западноевропейских государств. Германская газета *Die Welt* утверждает, что, по данным этих самых спецслужб, в районе Киева с начала нынешнего года скопилось до 200.000 человек, ожидающих возможности нелегального проникновения на Запад. Среди них преобладают граждане стран Азии и Африки, хотя о Западной Европе мечтает немало русских, украинцев и белорусов. *Die Welt* полагает, что в России, Беларуси и Украине перебраться на Запад готовы 2,5-3 миллиона человек.

Трудно сказать, насколько корректна эта цифра. Однако с уверенностью можно сказать, что финансовая катастрофа в России увеличит число потенциальных иммигрантов в Европу по меньшей мере в несколько раз. Надо думать, что в западноевропейских странах уже сейчас опасаются наплыва жертв российского финансового кризиса. Свою порцию нелегалов несомненно поставит и Косово, где перспективы мирного урегулирования просматриваются весьма бледно.

Но угроза Западной Европе исходит не только с Востока, но и с Юга. В самое последнее время через Испанию и Италию в западноевропейские страны буквально хлынули марокканцы и жители других стран Северной Африки. К тому же в Северной Африке ожидается демографический взрыв — предполагается, что численность населения здесь к 2025 году может возрасти со 165 до 275 миллионов человек. Значит, иммигрантов будет еще больше. Периодически случаются и курдские «набеги» на Европу, которые тоже вряд ли прекратятся в ближайшем будущем. В общем, забот с иммигрантами западноевропейцам хватит.

**Василий ПИМЕНОВ**

## Дешевый товар из Латвии

*В Штатах торговали рижанками*

**На днях Федеральное бюро расследований США при сотрудничестве с Латвийским бюро Интерпола задержало в Чикаго супружескую чету Мишуловичей. Семья обвиняется в найме латвийских женщин для работы за океаном и насильственном использовании их труда в качестве танцовщиц в стриптиз-барах.**

Выдавая себя за владельца ночного клуба, бывший гражданин России Алекс Мишулович, ныне проживающий в пригороде Чикаго, в 1996 и 1997 годах нанял на работу по крайней мере пятерых женщин из Латвии. Как место для вербовки потенциальных жертв использовались улицы Риги. По сообщению агентства *BNS*, Мишулович со своей супругой, латышкой Рудите Педе, останавливали молодых женщин с предложением заработать порядка 60 000 долларов. Дельцы помогали женщинам оформить иммиграционные документы, которые после прибытия в Штаты отнимались. Сами же невольницы оказывались запертыми в квартирах или гостиничных номерах. В случае побега им грозили расправой, причем не только с ними, но и с оставшимися на родине членами их семей. За свой труд жительницы Латвии получали по 20 долларов за ночь, хотя зарабатывали около 600.

Недавно предприимчивая пара была задержана полицией США. Против Мишуловича выдвигается обвинение в мошенничестве при получении виз, подчинение себе других лиц и вступление с этой целью в сговор. «Главе семьи» грозит 40 лет тюремного заключения. Рудите могут осудить на 30 лет лишения свободы. Как соучастники по делу проходят еще три человека.

**Вероника ФЕДОРЕНКО**

## Сердобольная мартышка


*На снимке: в частном зоопарке на окраине Бангкока (Тайланд) двухлетняя обезьяна Нан усыновила полуторамесячного котенка и ухаживает за ним, как за собственным детенышем. Котёнок не возражает.*

## Маньяки магазинных прилавков

**В последние десять лет американским психологам и психиатрам пришлось заняться новым психическим заболеванием — манией покупок.**

Согласно оценкам специалистов, до 2% американцев страдают этой болезнью. Поражает она в основном людей, страдающих от одиночества, комплекса неполноценности. Покупательская мания выражается в том, что, попав в супермаркет, такой человек начинает закупать буквально все подряд, пытаясь избавиться от некоего внутреннего беспокойства. Надо сказать, что современная система покупок на кредитную карточку способствует развитию такой мании — нельзя заметить вовремя, что в кошельке уже почти пусто. Когда покупатель является со свежими приобретениями домой, близкие хватаются за голову, а больной получает из банка уведомление аб огромных расходах. Все это вызывает новый приступ потери самоуважения, и покупатель-маньяк, чтобы утешиться, снова отправляется в магазин...

Особенно часто заболевают женщины (возможно, потому, что они более эмоциональны, менее практичны и вещи нередко имеют для них символическое значение). Женщины чаще увлекаются одеждой, косметикой, бижутерией, а мужчины — спортивными и техническими товарами, электроникой, мебелью.

С детства телевизионная реклама учит американцев: покупай — и будешь счастлив! Покупай — и будешь здоров и любим! Неудивительно, что покупки становятся для некоторых чем-то вроде наркотика. Заметим, что поездки по магазинам стоят в США, судя по социологическим опросам, на третьем месте в списке любимых занятий во время досуга.

## Без дома, но с адресом

**Английские бомжи обзаводятся электронной почтой.**

Человек, не имеющий постоянного места жительства, не может получить работу (как у нас, так и в Англии), а не имея работы — не может обзавестись квартирой или домом. Один из провайдеров электронной почты предоставил сейчас бесплатные электронные почтовые ящики для 14 ночлежек. Каждый из 200 обитателей приюта получит на полгода личный электронный адрес и сможет переписываться с различными работодателями, подыскивая работу.





© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1236 Нумар падпісаны ў друк 15/09/98 (15:30) Наклад — 19 820.